7 ЛІПЕНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№75 (606) КОШТ СВАБОДНЫ




стар. 4

# Расійскі «Беркут» здзекваўся з беларускай вёскі

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

Паміж саюзнікамі — Беларуссю і Расіяй — спее чарговы скандал. Як стала вядома, у дзень вызвалення, 3 ліпеня, з Бабруйска ў Смаленск былі дэпартаваныя больш за сто расійскіх падлеткаў з Сургута (Цюменская вобласць). Уся віна гэтых дзяцей у тым, што яны па ініцыятыве дарослых удзельнічалі ў паходзе па маршруце Светлагорск—Бабруйск—Курган Славы—Хатынь, прысвечаным 55-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. Арганізатар паходу, расійскі бізнесмен беларускага паходжання Анатоль Селівончык затрыманы. Светлагорская міліцыя лічыць, што, у дзеяннях «вызваліцеляў», якімі ён кіраваў, быў крымінал. Па звестках НАВІНАЎ, маецца на ўвазе інцыдэнт, які адбыўся ў вёсцы Мікалаеўка Светлагорскага раёна.

Пачалася гэтая гісторыя напрыканцы чэрвеня. У Беларусь для правядзення паходу па вызваляльных маршрутах 1-га Беларускага фронта прыехала прыкладна 130 чалавек з Сургута: недзе сто падлеткаў узростам да 16 гадоў, астатнія дарослыя — выхавацелі, ветэраны вайны ў Афганістане і Чачні. Была нават партызанка часоў Вялікай Айчыннай. А арганізавалі гэтую «інтэграцыйна-патрыятычную» акцыю тры грамадскія арганізацыі з Сургута — Савет ветэранаў горада, юнацкая школа «Беркут» і арганізацыя «Баявое братэрства». НАВІНЫ валодаюць дакументам, у якім кіраўнікі гэтых арганізацыяў інфармуюць старшыню камітэта па справах моладзі Аляксандра Пазняка, што такі паход адбудзецца з 20 чэрвеня па 3 ліпеня, і просяць садзейнічання. Узгадненне было праведзенае таксама па лініі міністэрства абароны — адна з вайсковых часцей у Бабруйску пагадзілася на некалькі дзён даць прыют удзельнікам паходу. Але галоўныя перамовы — з уладамі Светлагорскага раёна — узяў на сябе Анатоль Селівончык. Ён сам паходзіць з мясцовай вёскі Гамза, што побач з Мікалаеўкай. Яго добра ведаюць як спонсара і мецэната. На грошы бізнесмена Селівончыка больш года з Гамзы праз Мікалаеўку ходзіць аўтобус — возіць мясцовых жыхароў у Парычы, а то і далей. Карацей, Селівончык лёгка дамовіўся з уладамі, што правядзе ў гэтых мясцінах манэўры «Беркута» — імітацыю вызвалення ад фашыстаў. Аднак нешта ў гэтых пагадненнях не спрацавала. Калі ў мінулую сераду раніцай у Мікалаеўку ўвайшлі юнакі ў чорнай форме марскіх пехацінцаў, гэта было ўспрынята не як «Зарніца», а як сапраўднае з'яўленне карнікаў. Тым больш арганізатары імкнуліся наблізіцца да праўды максімальна. Напачатку яны адправілі на вёску атрад «захопнікаў», якія пад прымусам сагналі да школы прыкладна 20 чалавек. Звязаны быў нават старшыня мясцовага калгаса. Захоп, які па сцвярджанні пацярпелых вяскоўцаў, суправаджаўся збіццём, мацюгамі, здзекамі (людзей прымушалі класціся тварам на зямлю, трымаць за галавой рукі), доўжыўся прыкладна паўгадзіны. Потым прыйшлі «вызваліцелі». Узрываліся выбуховыя пакеты, дымелі шашкі, гучалі стрэлы (цяпер высветлілася, з газавых пісталетаў), грымела «ўра». Толькі крыху супакоіўшыся, «вызваліцелі» заўважылі, што не ўсе ў вёсцы скачуць ад шчасця. Тады да мясцовых жыхароў з прамовай звярнуўся Анатоль Селівончык. Кажуць, ён папрасіў прабачэння за «памылкі» аперацыі «Багратыён» і нават «праставіў» скрыню гарэлкі. Вызваліцелі аддаліліся ў свой лясны лагер рыхтавацца да новых «подзвігаў». Толькі тады ў вёску прыехала светлагорская міліцыя.



Па словах удзельнікаў паходу, Селівончык спрабаваў угаварыць міліцыянтаў «не раздуваць справу», але гэта яму не ўдалося. «Занадта ён гарачы чалавек». У выніку міліцыянты пачалі апытваць мясцовых жыхароў і збіраць заявы ад пацярпелых. «На сённяшні дзень у мяне ўжо больш за 10 такіх заяваў», — сцвярджае старшы інспектар групы па дазнанні светлагорскай міліцыі маёр Мікалай Глушэц. «Ці праўда, што расіяне былі ўзброеныя?» — «Не зусім так. У іх былі муляжы аўтаматаў Калашнікава, плюс газавая і пнеўматычная зброя. З яе і палілі, калі «захоплівалі» Мікалаеўку».

Далейшыя падзеі гэтай гісторыі адбываліся ўжо ў Бабруйску. Туды, у вайсковую часць на ўскраіне горада, перабраліся з Мікалаеўкі ўдзельнікі паходу. 3 ліпеня раніцай было запланаванае ўскладанне кветак на магілках побач з часцю. Падлеткі, іх выхавацелі і ветэраны з кветкамі ўжо строіліся ў калону, каб ісці на магілкі, як у часці з'явіліся следчыя. Анатоль Селівончык быццам бы адмовіўся выканаць іх патрабаванне паехаць у Светлагорск для дачы паказанняў. Тады міліцыянты папярэдзілі, што нікога, у тым ліку дзяцей, з вайсковай часці не выпусцяць. Пагрозу падмацавалі ўзводам амона, узброенага дубінкамі і шчытамі. Але як справа дайшла да сутычкі амонаўцаў з дзецьмі?

Распавядае сведка падзеі Барыс Стук: «Тое, што ўдзельнікаў паходу заблакаваў АМОН, спачатку не было ўспрынята ўсур'ёз. У галаве калоны ішлі ветэраны з іконай, потым дзеці з кветкамі. Мала хто думаў, што ў ход пойдуць дубінкі. Але нешта адбылося, кажуць, выбілі ікону з рук, і сутычка пачалася».

З далейшага нам вядома няшмат: спачатку былі затрыманыя недзе 15 дарослых удзельнікаў сутычкі, але праз некалькі гадзінаў усіх, акрамя Анатоля Селівончыка, адпусцілі. Селівончыка адвезлі ў светлагорскі ізалятар, дзе ён сядзіць і цяпер. Маёр Глушэц сцвярджае, што дзеянні расійскага бізнесмена цягнуць на "злосныя хуліганствы" — частка 3 артыкула 201 Крымінальнага кодэкса. Пакаранне за гэта — да 7 гадоў турмы. «Справа супраць Селівончыка ўжо ўзбуджаная», — сказаў маёр Глушэц. Селівончыку выкруціцца з гэтай справы будзе нялёгка. Магчыма, што не дапамогуць і ягоныя заслугі ў аднаўленні слаўтага крыжа Ефрасінні Полацкай, дзеля чаго шмат часу і сродкаў ён патраціў раней.

А што сталася з расійскімі падлеткамі? Па дадзеных некаторых бацькоў, яны знайшлі сваіх дзяцей толькі ў панядзелак, 5 ліпеня, на вакзале ў Смаленску. Туды юных расіянаў завезлі на аўтобусах прадстаўнікі беларускіх уладаў і пакінулі без дарослых, без грошай. Дзве ночы падлеткі спалі літаральна пад плотам, і яшчэ невядома, ці для ўсіх гэтыя прыгоды скончацца добра. Па звестках з Сургута, удзельнікі паходу "на Беларусь" учора дадому яшчэ не вярнуліся.

Здаецца, улады Сургута пакуль не ведаюць, як рэагаваць на гэтую гісторыю. «Мы разбяромся, але адразу скажу, што мы не давалі кіраўніцтву школы "Беркут" ліцэнзіі на работу з дзецьмі», — заявіла загадчыца аддзела Сургуцкага гарвыканкама сп.Нарава. Дарэчы, па звестках сургуцкіх СМІ, «Беркут» — адна з самых адыёзных арганізацыяў, ад якіх улады імкнуцца быць убаку. ■

# Помнік трагедыі

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Жалобны памятны знак на месцы масавай гібелі людзей на Нямізе, дзе 30 траўня ў падземным пераходзе загінулі 53 чалавекі, адкрываецца ў Мінску заўтра. Адкрыццё знака прымеркавана да 40 дзён з дня трагічных падзеяў. Плануецца, што на на цырымонію прыедзе прэзідэнт.**

Памятны знак складаецца з пяці прыступак з чырвонага капусцянскага мармуру, на якіх пераплятаюцца 40 бронзавых ружаў і 13 такіх жа цюльпанаў. Паводле задумкі аўтараў – скульптара Генадзя Буралкіна і галоўнага архітэктара Мінска Аляксандра Чадовіча – бронзавыя кветкі мусяць сімвалізаваць загінуўшых у пераходзе людзей: ружы – жанчын, цюльпаны – мужчынаў. Прычым, як нам стала вядома, кожнай дзяўчыне ва ўзросце да 16 гадоў будзе адпавядаць ружа з нераскрытым бутонам, дзяўчыне пасля 16 – з раскрытым, а 61-гадовай жанчыне – паламаная ружа. Як будуць адрозніваца паміж сабой цюльпаны, нам давядацца не ўдалося; хутчэй за ўсё, яны будуць аднолькавыя.

Уся гэтая кампазіцыя знаходзіцца збоку ад уваходу ў пераход. Над ёй на чорным мармуры будзе надпіс «53 рубцы на сэрцы Беларусі» – крыху перафразіраваная цытата з Аляксандра Лукашэнкі.



Як паведаміў нам Аляксандр Чадовіч, гэты помнік быў зроблены вельмі аператыўна, конкурсу на найлепшы праект не праводзілася, аднак ён абмяркоўваўся адмысловымі камісіямі Мінскага гарвыканкама і Савета міністраў. Высокім камісіям, па словах А.Чадовіча, праект спадабаўся, і яны не ўнеслі змяненняў у эскіз.

На думку галоўнага архітэктара, пасля адкрыцця грамадскасць мусіць выказаць сваю ацэнку памятнаму знаку, і калі ён не спадабаецца, то на працягу паўгода пройдзе ўжо сапраўдны конкурс на лепшы праект – з тым, каб да гадавіны трагедыі паспець паставіць новы помнік. Такім чынам, можа аказацца, што памятны знак, які адкрыецца заўтра, стане толькі часовым знакам «да даты».

У свеце існуюць традыцыі неяк абазначаць само месца трагедыяў, аналагічных Няміжскай. Напрыклад, можна было б адгарадзіць частку лесвіцы пераходу – месца, дзе сапраўды праліласа кроў ахвяраў. Аднак у А.Чадовіча сваё бачанне – ён мяркуе, што пераход павінен быць перш за ўсё функцыянальным, і таму не варта ствараць залішні перашкодаў на шляху людскога патоку. Мастацтва заўсёды мусіць ісці шляхам сімвалаў, а не «ў лоб», тлумачыць ён.

Што ж датычыць народных «графіці», што ў мностве з'явіліся на сценах злашчаснага пераходу, то галоўны архітэктар Мінска не бачыць перашкодаў для іх далейшага існавання – няхай сабе будуць столькі, колькі людзі будуць помніць пра трагедыю на Нямізе. ■

наша свабода

НАДВОР'Е




**8–9 ліпеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, кароткачасовыя дажджы, навальніцы, вецер усходні, 5–10 м/сек, пры навальніцах – шквалісты, 15–20 м/сек. Тэмпература паветра ноччу 13–18. Па **Гомельскай** і **Магілёўскай** абласцях пераважна без ападкаў, тэмпература паветра ноччу 16–21.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

## СЕРАДА



З АЛЯКСАНДРАМ ДУБРАВІНЫМ

### Праклятая прафесія

Сёння, гледзячы здалёк на справы мінулых часін, разумееш, што ніхто не нанёс такую шкоду эстэтычнаму пачуццю, душэўнаму камфорту і менталітэту беларусаў, ніхто не згнюсіў прыроду нашай краіны так непапраўна, як гэта зрабілі заслужаныя савецкія чырванасцяжныя меліяратары.

Хранічна нецвярозыя, парабску паслухмяныя начальству, сабраныя ў Беларусь са ўсёй Саўдэпіі, «перакаціполе», малаадукаваныя, цёмныя, заўсёды мурзатыя людзі ў брызентавых штанах і кірзавых ботах сваімі бульдозерамі і экскаватарамі збаёдалі, зруйнавалі, спляжылі найпрыгажэйшыя мясціны, асушылі разам з балотамі рэкі і азёры, павалілі сотні тысяч дрэваў, запаскудзілі сенажаці і крыніцы, залілі салярай, стапталі норы і гнёзды звяроў і птушак. Пасля сябе яны пакінулі на зямлі ржавыя кавалкі дроту, тросаў, дэталяў машын, гнілыя карчы, выпаленыя плямы, на якіх ніколі не расце трава і дрэвы.

Рамантыка асушэння балотаў, адчувальная ў паэме Янкі Купалы «Над ракой Арэсай», цвярозая логіка зацікнутых тваннцю вясковых людзей, якая вымагала асушэння багны, апісаная ў рамане Івана Мележа «Людзі на балоце», абярнуліся ўрэшце для нас сухімі абязводжанымі шматкіламетровымі палямі, над якімі вецер носіць хмары чорнага тарфянога пылу, выпрастанымі бяздоннымі смуроднымі канавамі замест светлых і празрыстых, мудрагеліста закручаных нашых палескіх рачулак. Сэрца рве на часткі, калі пабачыш, што меліяратары зрабілі з маёй роднай, найпрыгажэйшай у свеце рэчкай Случ. Як паднялася рука, як паварушыліся мазгі на такое забойства? Хто планаваў яго? Чаму не адсохла твая нага, меліяратар, на тым педалі бульдозера, што перакопваў крынічку, якая дала душу гэтай рэчцы? Чаму тваіх бязглуздых начальнікаў разам з усімі іх чырвонымі вымпеламі і ленінскімі ганаровымі граматамі балотны чорт не зацягнуў у багну, дзе ім самае месца?

Няма адказу...

Але ёсць, ёсць адваротная сувязь. Сёння гляджу навокал і бачу нават у горадзе сотні і тысячы «меліяратараў». Бачу гэтакія ж алавяныя вочы, хранічную нецвярозасць, цынізм, нехаайную вопратку. На кожным кроку чую іх брыдкую лаянку: рускі мат. Адчуваю, што мала-памалу нашае насельніцтва робіцца па-рабску паслухмяным, баязлівым, агрэсіўным, гатовым зруйнаваць усё навокал са злосці на ўвесь свет. Павольна робіцца быдлам. Самай фундаментальнай часткай, апірышчам, электаратам і будучым сённяшняй улады. Пяць гадоў публічнага здзеку з закона, справядлівасці, сумленнасці рэльефна праявілі ў многіх людзях самыя заганныя якасці душы, а бязглуздая палітыка «адчыненых з Усходу варотаў» папоўніла рады айчынных «меліяратараў» дзесяткамі тысяч прывабленых рэжымам апіўкаў з Расіі.

Што яны могуць зрабіць з нашай краінай?

## Гульні з масквічамі да дабра не давялі

Іван БАБІЧАЎ

Вытокі пераменаў, якія адбыліся ў рэдакцыі недзяржаўнага тыднёвіка «Белорусская газета», — расійскія.

Рашэнне аб адстаўцы Аляксандра Вальвачова было прынятае нарадай дырэктараў ЗАТ «Белорусская газета» ў адсутнасць самога галоўнага рэдактара. Нарада дырэктараў амаль не збіралася на нейкае пасяджэнне — у статуце ЗАТ ёсць пункт, які прадугледжвае рашэнне такога пытання шляхам «апытання». З інфармаваных крыніцаў стала вядома, што першую скрыпку ў рашэнні адыгралі расійскія пайшчыкі, у прыватнасці, банк «Онексим» і кіраўніцтва яго беларускага «сатэліта» — «Комплексбанка». Па іншай інфармацыі, не апошнюю ролю адыграла тут і кіраўніцтва расійскага часопіса «Эксперт», які мае сваю долю ў ЗАТ «БГ». Гэты часопіс, дарэчы, пастаўляе матэрыялы адыёзнай прграме БТ «Рэзананс».

Відавочна, расіянам не падабаўся накірунак, праводзімы газетай, у прыватнасці, тое, што на яе старонках значнае месца адводзілася каментарам і выказванням апазіцыйных лідэраў. Да ракавога для Вальвачова рашэння кіраўніцтву і журналістам газеты ўдавалася стрымліваць такі «маскоўскі накірунак»: «Мы жывём тут, і нам адсюль відней, як і аб чым пісаць». Аднак, як толькі галоўны рэдактар Аляксандр Вальвачоў выехаў за мяжу на вучобу, ён быў завочна змешчаны са сваёй пасады. ■

ВІЗІТ

## Немцы вывучаюць сітуацыю

Алесь ДАШЧЫНСКІ

У Мінску знаходзіцца дэлегацыя прадстаўнікоў ландтага і грамадскіх арганізацыяў Ніжняй Саксоніі, адной з 16 федэральных земляў Германіі. Прыбыла яна па запрашэнні беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» для азнаямлення з сітуацыяй у Беларусі. Склад дэлегацыі яшчэ раз сведчыць пра тое, што гуманітарныя і палітычныя праблемы ўзаемазвязаныя.

Учора адбылася сустрэча гасцей з Ніжняй Саксоніі з прадстаўнікамі вядучых апазіцыйных партыяў нашай краіны. Сябра фракцыі «зялёных» Штэфан Венцэль сказаў на пачатку дыскусіі, што нямецкі бок хоча атрымаць адказы на пытанні — ці можа Беларусь стаць на шлях дэмакратычнага развіцця і забяспечыць захаванне правоў чалавека. Немцы цікавіліся апошнімі выказваннямі прэзідэнта Лукашэнкі наконт збліжэння з Захадам. Удзельнік дыскусіі лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч лічыць, што «такая заява зробленая ў першую чаргу для Расіі, хоць у некатарай ступені і для Захаду. Прэзідэнт быццам гатовы да дыялогу з апазіцыяй, але разам з тым не прызнае наяўнасці ў нашай краіне канстытуцыйнага крызісу. Аднак нашыя перамовы могуць ісці толькі пра канстытуцыю, выбарчае заканадаўства, выбарчыя камісіі, якія прэзідэнтам поўнасцю прызначаныя, пра назіранне за выбарамі і допуск апазіцыі да электронных сродкаў масавай інфармацыі».

Кіраўнік дэлегацыі Вольфганг Копф распавёў карэспандэнту НАВІНАЎ, што Цэнтр кантактаў NiKoBela супрацоўнічае з 50 нямецкімі арганізацыямі па чарнобыльскай праграме і штогод каля 3 тысяч беларускіх дзяцей адпачываюць у Ніжняй Саксоніі. Вельмі актыўна гэты цэнтр супрацоўнічае з фондам «Дзецям Чарнобыля», які пасля пераследу з боку ўладаў зноў можа працягваць сваю дзейнасць. Па словах В. Копфа, «парушэнне правоў чалавека і адыход ад дэмакратычнага працэсу ў Беларусі ўскладняе нашую працу, бо салідарнасць і інтарэс нямецкіх грамадзянаў да чарнобыльскай гуманітарнай праграмы патрабуе якраз пазітыўных пераменаў у гэтай сферы». ■



ПАРТЫІ

## Прайшлі перарэгістрацыю не ўсе

Юрый ПАЦЁМКІН

У Беларусі завяршыўся тэрмін падачы дакументаў на перарэгістрацыю грамадскіх аб'яднанняў. Як паведаміў начальнік упраўлення грамадскіх арганізацыяў і аб'яднанняў міністэрства юстыцыі Беларусі Міхаіл Сухінін, з 1.300 рэспубліканскіх грамадскіх аб'яднанняў дакументы на перарэгістрацыю падалі толькі 850. 366 аб'яднанняў, паведаміў М.Сухінін, ужо прайшлі перарэгістрацыю, дакументы яшчэ 481 арганізацыі пакуль знаходзяцца ў рабоце. З розных прычынаў у перарэгістрацыі адмоўлена 11 арганізацыям. Некаторым з іх, са словаў начальніка ўпраўлення, прапанавана зарэгістравацца як суб'ектам гаспадарання, камусьці — панізіць свой статус, а іншым прапанавана зарэгістравацца ў якасці рэлігійных арганізацыяў.

Такім чынам, як падкрэсліў М.Сухінін, з рэспубліканскіх аб'яднанняў пажадалі прадоўжыць сваю грамадскую і палітычную дзейнасць дзве трэці ад агульнай колькасці, а з арганізацыяў, што дзейнічаюць у рэгіёнах, — толькі кожная трэцяя. Усе арганізацыі, якія паспелі своечасова падаць дакументы на перарэгістрацыю, заявіў М.Сухінін, будуць знаходзіцца пад абаронай міністэрства юстыцыі аж да прыняцця Рэспубліканскай камісіяй канчатковага рашэння аб іх рэгістрацыі ці аб адмове ў ёй.

З 27 дзеючых палітычных партыяў дакументы на перарэгістрацыю падалі 17. Аб'яднаная грамадзянская партыя (АГП) і Партыя камуністаў Беларуская (ПКБ) перарэгістраваныя міністэрствам юстыцыі. Раней гэтую працэдуру паспяхова прайшлі Ліберальна-дэмакратычная партыя, Беларуская партыя жанчын «Надзея», Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці.

Па словах М.Сухініна, дакументы на перарэгістрацыю прадставілі таксама партыя Беларускага Народнага Фронту, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада), Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Рэспубліканская партыя, Беларуская экалагічная партыя «зялёных», Камуністычная партыя Беларусі, Беларуская патрыятычная партыя, Сацыял-дэмакратычная партыя народнай згоды, Беларускі хрысціянска-дэмакратычны саюз, Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя, Партыя здаровага сэнсу і Беларуская рэспубліканская партыя.

Тым часам, з 34 арганізацыяў-членаў Беларускага нацыянальнага маладзёжнага савета (БНМС) працэдуру перарэгістрацыі прайшлі пакуль толькі тры — Ліга добраахвотнай працы моладзі, Міжнародная грамадская арганізацыя «КАЯ» і Рэспубліканскае маладзёжнае аб'яднанне «Next Stop — New Life». Яшчэ адной арганізацыі — грамадскаму аб'яднанню «ЮНІБЕЛ», якая стала членам савета зусім нядаўна, — перарэгістрацыю праходзіць не давялося, бо яна была зарэгістраваная пасля выдання адпаведнага дэкрэта.

Начальнік упраўлення таксама паведаміў, што, згодна з адпаведным дэкрэтам прэзідэнта, да 15 ліпеня мінюст апублікуе ў сродках масавай інфармацыі спіс грамадскіх арганізацыяў, якія не падалі дакументы на перарэгістрацыю і з гэтай прычыны падлягаюць ліквідацыі ва ўстаноўленым законам парадку. ■

ЦЫТАТА НУМАРА

**У Белоруссии, в отличие от России, почти нет долгов, потому что ей давно никто не дает денег. Белоруссия как тот «неуловимый Джо», которого никто не может поймать, потому что он никому не нужен.**

*Семен НОВОПРУДСКИЙ, газета «Известия», 6 июля 1999 года*

## Ордэн для гранатамётчыка

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Дэпутат палаты прадстаўнікоў і памочнік прэзідэнта Віктар Кучынскі атрымаў ад Аляксандра Лукашэнкі ордэн «За асабістую мужнасць». Як паведамляецца ў прадстаўленні, В.Кучынскі ўзнагароджаны за «смелыя і рашучыя дзеянні, звязаныя з выкананнем службовых абавязкаў».

Мы паспрабавалі знкантактавацца з дэпутатам і памочнікам, але нам не пашанцавала. Таму можам толькі здагадвацца, у чым выражаліся тыя «смелыя і рашучыя дзеянні». Па адной з версіяў, Лукашэнка не забыўся пра абяцанне Кучынскага, калі той яшчэ быў у Вярхоўным Савеце, «бараніць прэзідэнта з гранатамётам у руках». Менавіта тады да яго і прывязалася мянушка «гранатамётчык». Па іншай версіі, такім чынам Лукашэнка адзначыў ягоны гераізм і гатоўнасць прыкрыць сваім целам груз беларускай гуманітарнай дапамогі ў Югаславію напярэдадні натаўскіх бамбардзіровак. Цяпер на геройчных грудзях павісне ордэн. Заслужыў? ■

## Абвінавачаны ў дачы хабару

Валянціна КАЗЛОВІЧ

Абвінавачанні па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса рэспублікі — «дача хабару», «перавышэнне ўлады і службовых паўнамоцтваў» — прад'яўленыя дырэктару Брэсцкай філіі Беларускага камерцыйнага універсітэта кіравання (БКУК), кандыдату эканамічных навук Надзеі Якавенка.

Інфармацыя аб вымагальніцтве грошай паступіла ў міліцыю ад студэнтаў, якім не спадабаліся новаўведзеныя паборы — па 35 долараў ЗША з кожнага выпускніка па спецыяльнасці «Фінансы і крэдыт» — для «дастойнай сустрэчы» экзаменацыйнай камісіі.

Па версіі следства, 500 долараў з агульнай сумы сабраных студэнтамі грошай (амаль 3 тысячы долараў) прызначаліся непасрэдна для дырэктара Брэсцкай філіі БКУК, астатнія — на абеды і вячэры выкладчыкам у лепшых рэстаранах горада. ■

## Хотите отдохнуть? Поезжайте в Чернобыль

Никита ПАВЛОВ

Предприимчивые украинские туристические агентства рекламируют свою новую услугу — путешествие в Чернобыль, к взорвавшемуся тринадцать лет назад реактору атомной электростанции.

Чтобы почувствовать себя сталкером, достаточно заплатить около 30 фунтов стерлингов. Туристам предлагается осмотреть саркофаг, сооруженный над разрушенным реактором, а также покинутый город Припять и окружающие его деревни, которые постепенно отвоевывает лес. Город был покинут так поспешно, что в домах остались разбросанные вещи, а на улицах — коммунистические лозунги, восхваляющие мудрость партии и доблесть советских рабочих.

Несмотря на то, что уровень радиации здесь в некоторых местах превышает допустимый в пять раз, сотрудники туристических компаний уверяют: однократное облучение неопасно.

«Я работаю здесь уже год и чувствую себя прекрасно. Мы просто не останавливаемся в районах, где сильная радиация. А так здесь все нормально», — рассказал 26-летний гид Юрий Татарчук. ■

## «Гучныя справы» ці «мыльныя бурбалкі»?

Міхась КАРПОВІЧ

Апошнімі поспехамі беларускіх органаў па барацьбе з карупцыяй сталі арышт Юрыя Феакцістава, дырэктара найбуйнейшага ў краіне прадпрыемства – Беларускага металургічнага завода – і прадпрымальніка Віктара Лагвінца. Тым не менш, паводле інфармацыі з нашых крыніцаў, абедзве гэтыя справы могуць стаць «мыльнымі бурбалкамі» і лопнуць гэтаксама хутка, як яны і нарадзіліся.

Як нам стала вядома, Юрый Феакцістаў і Віктар Лагвінец у самы хуткі час могуць быць выпушчаныя на волю. Такім чынам, у барацьбе кланаў вакол прэзідэнта наступіць новая фаза. Яшчэ зусім нядаўна здавалася, што ў мітусні пад дываном канчатковa перамог маўклівы сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман. Апошняя затрыманні яскрава пацвярджалі гэта. Аднак калі Феакцістава і Лагвінца выпусцяць на волю, то гэта засведчыць рэзкі «адкат» Шэймана ў прэзідэнцкім неафіцыйным «табелі аб рангах» – і, адпаведна, умацненне пазіцыяў кіраўніка прэзідэнцыяй справамі Івана Ціцянкова. Між іншым, у прэс-службе Савета бяспекі краіны не пацвердзілі магчымасць хуткага вызвалення фігурантаў.

Дарэчы, па нашай інфармацыі, Аляксандр Лукашэнка кардынальна зменіў сваё стаўленне яшчэ да аднаго даволі істотнага пытання. Цяпер нібыта ён рыхтуецца сесці за стол перамоваў з апазіцыяй і нават правесці дэмакратычныя выбары. ■

# Вайна супраць рэзервістаў

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**На працягу жыцця чалавек звычайна некалькі разоў мяняе месца працы. Па розных прычынах, у тым ліку па ўласным жаданні, якое ў сваю чаргу ўзнікае пад уздзеяннем шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынаў.**

У савецкія часы з гэтай натуральнай цягай чалавека да пераменаў змагаліся кадравікі, мясцовыя адміністрацыі і вярхоўныя ўлады. Найбольш радыкальным сродкам была барацьба з «тунеядствам» праз прымусовае працаўладкаванне ў месцах, вызначаных органамі МУС. Тыповым, але самым знакамітым выпадкам такога роду «працатэрапіі», стала высылка з Ленінграда на прымусовыя работы геніяльнага паэта Іосіфа Бродскага ў 1964 годзе. Гэты расійскі паэт, які пазней быў ушанаваны Нобелеўскай прэміяй, ніколі не меў «даху» ў выглядзе творчага саюза, таму і лічыўся злосным тунеядцам. Карацей кажучы, праца была справай гонару і геройства і адпаведна лічылася лепшым сродкам выхавання і перавыхавання чалавека. Сітуацыя змянілася карэнным чынам, калі было абвешчана пра пераход да рынкавых адносінаў. Ужо ў 1991 годзе ў Беларусі былі афіцыйна зарэгістраваныя першыя беспрацоўныя, а на аснове органаў па працы выканкамаў, якія раней займаліся найперш росшукам «летуноў», была створаная дзяржслужба занятасці, адной з функцыяў якой стала дапамога беспрацоўным у працаўладкаванні.

Зразумела, што, пакрочыўшы да рынку, хай і не па сваёй волі і на не надта здаровых нагах, грамадства адразу атрымала і рынечны «абаранак» (зніклі амаль імгненна таварны дэфіцыт і чэргі), і дзірку ад яго (прыкладам, беспрацоўе). Узнікла тая самая рэзервовая армія працы, пра якую некалі пісаў Маркс. Ён жа лічыў, што беспрацоўе носіць штучны характар, паколькі капіталісты выкідваюць работнікаў на вуліцу, каб выжымаць усе сокі з ашчаджаных. Невядома як дзе, але ў нас гэты песімістычны погляд не сцвердзіўся. Аказалася, што беларусы ніколькі не баяцца згубіць працу. Да гэтай пары значную колькасць зарэгістраваных беспрацоўных складаюць звольненыя па ўласным жаданні.

З цягам часу, калі мы ўсё далей і далей цягнемся па торнай дарозе рынку, такіх людзей нават большае. За мінулы год іх колькасць сярод зарэгістраваных беспрацоўных павялічылася адносна 1997 года амаль на чвэрць, а ўдзельная вага ў агульнай колькасці беспрацоўных павялічылася з 35 да 42 працэнтаў. У гэтай сувязі ўзнікае, як той казаў, законнае пытанне: чаму? Ці то беларусы такія асаблівыя, ці гэта няя зарплата — гэта амаль тое ж, што і сярэдняя тэмпература па бальніцы: у рэанімацыі адна, у моргу — другая. Напрыклад, служачыя камерцыйных банкаў у сярэднім зарабляюць 150 доляраў, але ж начальнікі больш, а шэраговыя супрацоўнікі менш. У прамысловасці ёсць катэгорыі работнікаў з зарплатай і ў 100, і ў 25 доляраў. Нарэшце, ёсць галіны вытворчасці і дзейнасці, дзе і сярэдні заробак не перавышае 20-25 доляраў. Выходзіць, што існуюць і такія працоўныя месцы, дзе за месяц можна зарабіць аж 10 доляраў (прыкладна 20-30 ве? Па дадзеных мінстата РБ, толькі за 1997 год колькасць эканамічна актыўнага насельніцтва (без навучэнцаў) павялічылася на 2,6 працэнта і склала 739 тысяч чалавек, ці 12,5 працэнтаў колькасці працоўных рэсурсаў. Пра гэтых людзей вядома ўсё: дзе яны жывуць, дзе прапісаныя, колькі ў іх дзяцей ці яны бяздзетныя, і гэтак далей. Невядома толькі, дзе яны працуюць, за кошт чаго жывуць. Сярод іх, па некаторых ацэнках, 40-50 працэнтаў — гэта маладыя людзі ва ўзросце 16-19 гадоў, якія ніколі не мелі афіцыйнага занятку. Вось і тра-



вынікі нейкай незвычайнай палітыкі на рынку працы? І ўвогуле, ці існуе на самой справе гэты рынак?

Скажам так, быццам ёсць, але быццам і няма. Бо на рынку, зразумела, прадавец (у нашым выпадку — уладальнік рабочай сілы) і пакупнік (наймальнік, уладальнік сродкаў вытворчасці) дагаворваюцца аб цане, адзін стараецца яе павысіць, а другі збіць. Звычайна так адбываецца паўсюль, паступова прадаўцу ўдаецца патроху павышаць цану сваёй рабочай сілы. У нас наадварот, пакупнік плаціць колькі можа і захоча, а можа і хоча ён усё менш і менш. Напрыклад, у 1996-97 гадах сярэдняя заработная плата па рэспубліцы складала 100—110 доляраў, а зімой і вясной бягучага года яна падала і да 30 доляраў. Нават у траўні, калі ўдвая павялічылася МЗП, яна склала 17,6 мільёна рублёў (каля 40 доляраў па рыначным курсе).

Ці трэба казаць, што сярэд- савецкіх капеек за працадзень).

Таму няма нічога дзіўнага, што людзі не баяцца згубіць такую працу, яны баяцца не знайсці лепшую. А тыя, хто застаецца, ці не могуць нічога знайсці, ці дапрацоўваюць да пенсіі. Таму і вытворчыя справы ідуць абы-як. Гэтае «абы-як» тычыцца ўсяго: якасці, колькасці, цэнаў на беларускія тавары. Прыкладаў таму мноства, вазьміце хоць барысаўскія запалкі. Калі ўдасца запаліць кожную трэцюю, значыць, вам пашчасціла, да вас патрапіў пачак са знакам якасці.

Між тым, тут не да смеху. Беспрацоўе, якасць працы, заробкі — гэта карэнныя сацыяльна-эканамічныя праблемы, якія ніяк з цягам часу не вырашаюцца. Адзіным сродкам лічыцца макіяж, з дапамогай грыму маскіруюцца сацыяльныя болькі ды язвы. Вось прыклад. Афіцыйна лічыцца, што беспрацоўе ў нас складае менш за 2 працэнты працаздольнага насельніцтва. А на самой справе цаць яны свае здольнасці кожны па-свойму. Але ж жывуць і нешта робяць.

Вось вам і рэзервовая армія працы, якую ўлады хаваюць пад паказчыкам афіцыйнага беспрацоўя. Ад дзяржавы яны нічога не патрабуюць, жадаючы толькі аднаго — каб яна ім не перашкаджала. Яны не жадаюць быць ёй у нечым абавязанымі. Але ж гэта не азначае, што абавязкаў перад імі няма ў самой дзяржавы, хоць гэта для нас гучыць зусім нязвыкла. Дзяржава павінна спрыяць дробнаму бізнесу і прадпрымальніцтву, аб чым яна заяўляе раз-пораз вуснамі чыноўнікаў, а на самой справе вядзе супраць яго непрыхаваную вайну. Сродкі вядомыя: штрафы, канфіскацыі, падаткі, дарагая і складаная працэдура рэгістрацыі, усё не пералічыць.

Калі гэтага не зрабіць, то рэзервовая армія працы пойдзе ў падполле. А 700 тысяч чалавек, пагадзіцеся, гэта вялікая сіла. ■

ТЭНДЭНЦЫІ

# Большыя каталікі за Рымскага Папу

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

**У газеце Саюза палякаў Беларусі «Glos znad Niemna» паявіўся артыкул «Што належыць альбо чаго не належыць рабіць», героем якога побач з Янам Паўлам II аказаўся неспадзявана і я, Сяргей Астраўцоў. Але роля мне дадзена адмоўная. Якраз за тое, што я напісаў пра апошні візіт Папы ў Польшчу ў газеце НАВІНЫ.**

Нічога дзіўнага не было б, каб «Glos» пачаў палемізаваць з Зімоўскім, які абвінавачвае СПБ ва ўсякіх «косаўскіх справах». Рэдактар газеты А.Кусельчук, аднак, выбірае для сваёй рубрыкі «Запрашаем да палемікі» мяне, хоць я спачатку абараняў у сваёй газеце палякаў ад «косаўскіх» абвінавачванняў, а потым вось напісаў пра паломніцтва.

У Гродна і ў Саюзе палякаў мяне ведаюць як празаіка, але рэдактару «Glosa» чамусьці спатрэбілася іранічна назваць мяне паэтам, а маю газетную карэспандэнцыю «dzielem literackim». Назва маёй карэспандэнцыі «Рымскі Папа і бел-чырвона-белыя сцягі» гаварыла сама за сябе — што аўтара цікавіць беларускі бок падзей.

Рэдактар польскай газеты сцвярджае, што ў Седльцах не было двух дзесяткаў вялізных бел-чырвона-белых сцягоў, паколькі сам Кусельчук стаяў сярод 400-тысячнай грамады паломнікаў і бачыў толькі некалькі сцягоў. Ясна, што ён не мог бачыць усяго таго, што, як заўжды вельмі прафесійна і дакладна, паказвала польскае тэлебачанне.

не падабаецца, што я падкрэсліў: у гэтым сэнсе вылучаныя толькі ксяндзы з Беларусі, якія былі палякамі. (13 чэрвеня у Варшаве Папа ўрачыста беатыфікаваў іх.) Але менавіта так — «ксяндзамі-палякамі» яны былі названыя ў пастырскім пасланні біскупаў каталіцкага касцёла Беларусі, якое зачытвалася ва ўсіх храмах 6 чэрвеня. Аўтару здаецца, што я блытаю паняцці беатыфікацыі і кананізацыі, хоць ён дае цытату з маёй карэспандэнцыі, дзе зразумела, што гаворка ідзе менавіта пра беатыфікацыю. Рэч у тым, што для большасці нашых чытачоў няма розніцы паміж гэтымі словамі. А.Кусельчук папракае, што я нібыта падзяляю на святых «нашых і не нашых». Але падзяляю не я, я толькі пра гэта пішу. Фактам застаецца тое, што нават з Беларусі вылучаюцца толькі ксяндзы-палякі. Хоць святары-беларусы цярпелі падвойна яшчэ і за беларускую мову. Варта, напэўна, нагадаць, што іх пераследавалі і ўлады даваеннай Польшчы, якія лічылі, што ў касцёле не месца «мужыцкай» мове.

Мінулай восенню ў Гродне адбылася беларуска-польская кан-



ферэнцыя, прысвечаная праблемам памежжа. А.Кусельчук выступіў на ёй з гістарычным рэфератам, з якога вынікала, што ён або зусім не ведае беларускай гісторыі, або трымаецца погляду сталіністаў ці польскіх шавіністаў, якіх, можа, і ў самой Польшчы ўжо не засталося. Гэта выклікала абурэнне нават за ўсё ў польскіх навукоўцаў з Беластока. Адзін з іх падкрэсліў, што падобныя выступленні шкодзяць паразуменню паміж палякамі і беларусамі.

Кусельчук не адмаўляе, што на Гродзеншчыне шмат ксяндзоў і манашак з Польшчы, хоць яму не падабаецца, што пра гэта ўзгадваю я. І вось дзеля чаго. У гродзенскім Фарным касцёле адначчы да рэлігійнага свята напісалі адзін плакат, як заўжды, па-польску, другі — пабеларуску. І гонар тых, хто моліцца на польскай мове, не пацярпеў. Цяпер зноў заўсёды ўсе плакаты — толькі на польскай мове. Я пацікавіўся: чаму? Таму, што плакаты робяць дабрачынна польскія манашкі... А каб павесіць яшчэ і беларускі, трэба знайсці ў горадзе якога-небудзь мастака і папрасіць, каб ён выканаў яго бясплатна. Цікава: польская манашка ў Літве ў касцёле, дзе адбываецца набажэнства і на польскай, і на літоўскай мовах, ці наважыцца праігнараваць літоўскую мову, робячы плакаты да свята? Пытанне — рытарычнае.

А.Кусельчук не адмаўляе таго факта, што Ватыканам не названы «пакутнікамі за веру» тыя ксяндзы, якія свядома выкарыстоўвалі ў касцёле беларускую мову і загінулі. Але яму

Я даўно ўжо пераканаўся, што трэба будаваць масты паміж намі і палякамі. За гэта свае часам лічаць мяне паланафілам, але разам недалюбліваюць некаторыя палякі, якім вядома, што я заўжды скажу праўду, калі неабходна. І апошняе. У мяне ёсць нямала прыяцеляў — і людзей сталых, і маіх аднагодкаў (ёсць сярод іх і журналісты), менавіта заходнебеларускіх, прычым настроеных патрыятычна, якія мараць пра суверэнную дэмакратычную Беларусь. Дык вось, яны дагэтуль не могуць перамагчы ў сабе недаверу да палякаў, пераканання, што ім увесь час тут бачацца «крэсы». ■

СУСЕДЗІ

# Чубайс і Беразоўскі змагаюцца за пасаду прэзідэнта Украіны

Ягор ІВАНОЎ

Вынікі выбараў прэзідэнта Украіны, прызначаных на 30 кастрычніка гэтага года, залежаць і ад вынікаў супрацьстаяння двух самых уплывовых расійскіх фінансава-палітычных магнатаў: Анатоля Чубайса і Барыса Беразоўскага. Барыс Беразоўскі актыўна падтрымлівае сённяшняга прэзідэнта краіны Леаніда Кучму. Менавіта Кучма з'явіўся фармальным ініцыятарам прызначэння Беразоўскага выканаўчым сакратаром СНД увесну 1998 года. Па версіі расійскіх экспертаў, Беразоўскі гатовы прапанаваць Кучму рэсурс уплыву тэлекампаніі ОРТ (ОРТ з'яўляецца сузаснавальнікам найбольш папулярных украінскіх тэлеканалаў УТ-1 і УТ-2), а таксама фінансавыя магчымасці сваіх партнёраў, не выключаючы і Рамана Абрамовіча. Займацца выбарчай кампаніяй Кучмы будуць, хутчэй за ўсё, структуры, блізкія да Беразоўскага, у прыватнасці, агенцтва «PRЦэнтр».

Анатоль Чубайс, наадварот, робіць стаўку на саперніка Кучмы, спікера Вярхоўнай Рады (парламента) Украіны Аляксандра Ткачэнку. Ткачэнка з'яўляецца лідэрам сялянскай партыі Украіны і ў палітычным спектры займае пазіцыю крыху лявей за Кучму. Рэйтынг Ткачэнкі ў цяперашні момант значна ніжэйшы за рэйтынг сённяшняга прэзідэнта, аднак, на думку экспертаў, пры належных фінансавых уліваннях з боку РАО «ЕЭС Расіі» ў Ткачэнкі ёсць шанц выйсці ў другі тур прэзідэнцкіх выбараў. Не выключаецца, што з Чубайсам саліда-



● Анатоль Чубайс



● Барыс Беразоўскі

рызуецца і старшыня праўлення РАО «Газпром» Рэм Вяхіраў, які незадаволены палітыкай Кучмы ў адносінах расійскай газавай манаполіі. Украіна, як вядома, павінна «Газпрому» больш за $1 млрд. Па некаторых дадзеных, Чубайс ужо прапанаваў Ткачэнку паслугі іміджмейкераўскай групы Цэнтра ліберальна-кансерватыўнай палітыкі на чале з вядомым выбарчым тэхнолагам Юліяй Русавай. (Група Русавай мае вопыт работы на Украіне: у 1997-98 гадах яна займалася іміджам партыі «Грамада» і яе лідэра, былога прэм'ер-міністра краіны Паўла Лазарэнкі.) На Украіне рэальны інтарэс для дзелавых колаў, блізкіх да Чубайса і Беразоўскага, маюць такія аб'екты, як Лісічанскі НПЗ, Нікалаеўскі гліназёмны завод, а таксама інфраструктура Нікалаеўскага і Адэскага партоў. ■

# Верхні горад: рэстаўрацыя ці «еўрарамонт»?

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ

**Для мінчукоў савецкай эпохі была ўласцівaю псіхалагічная раздвоенасць, спалучэнне двух супрацьлеглых пачуццяў — гонару за свой горад і непаўнавартаснасці за тое, што ты мінчук. Мы камплексавалі перад жыхарамі Кіева, Варшавы, Вільні, Рыгі... Наш горад уваходзіў у дзесятак самых важных гарадоў Савецкага Саюза, і былі мы ў гэтым спісе чацвёртымі пасля Масквы, Ленінграда і Кіева. Да таго ж Мінск меў статус горада-героя. Яшчэ пра Мінск іншы раз гаварылі, што гэта самы чысты горад СССР. Гэта ўсё пра гонар.**

Зараз пра непаўнавартаснасць. Не было ў горада-героя замкавай гары са старажытнай вежай, адкуль адкрываецца цудоўны від на стары горад, як у Вільні. Не было Сафійскага сабора і Лаўры, як у Кіеве, утульнай Ратушнай плошчы, як у Таліне. Не было ў Мінска сэрца (не лічыць жа, сапраўды, сэрцам плошчу Леніна альбо плошчу Перамогі — афіцыёзныя сімвалы Беларускай ССР). «Минск нравится мне тем, что Вильнюс близко», — любіў гаварыць адзін мой знаёмы. Мне гэтыя словы былі, як соль на рану.

Аб краіне мяркуюць найперш па сталіцы. Менавіта з жадання давесці ўсім і найперш сабе, што Беларусь пачалася не ў 1919 годзе з ласкі бальшавікоў, а была заўжды, узнікла мара пра адроджаны Верхні горад — гістарычнае ядро сталіцы. Ужо сама ідэя адраджэння выклікала незадаволенасць улады. Яно і зразумела: ніякая ўлада не любіць грамадскай самадзейнасці. Асабліва калі грамадзяне наўпрост альбо ўскосна ставяць пад сумнеў пануючую ідэалогію. Адроджаны Верхні горад адразу высветліў бы ўбоства архітэктуры «новага сацыялістычнага Мінска» і стаў бы канкурэнтам плошчы Леніна і плошчы Перамогі — а гэта ўжо ідэйная барацьба, замах на бальшавіцкую сімволіку.

Коратка нагадаю гісторыю Верхняга горада. Мінск бярэ пачатак ад Замчышча, пабудаванага ў даліне Свіслачы і Нямігі. Тое, што сёння мы называем Верхнім горадам, раней было адным з пасадаў, што атачалі Замчышча. Забудоўвацца Верхні горад пачаў у XII стагоддзі, а пасля здабыцця Магдэбургскага права (1499 г.) сюды перамясціўся гарадскі цэнтр. Архітэктурны вобраз новага цэнтра складваўся на працягу двух стагоддзяў, і на момант падзелаў Рэчы Паспалітай (калі Мінск трапляе ў расійскую акупацыйную зону) Верхні горад уяўляе сабою дасканалы горадабудаўнічы комплекс. Тут гарманічна спалучаюцца элементы готыкі, рэнесанса, барока, класіцызму.

Наступныя дзвесце гадоў былі ў асноўным часам стратаў. Беларускія гарады перабудоўвалі згодна з тыпавымі планамі і тыпавымі праектамі, складзенымі пецярбургскімі архітэктарамі, для якіх Беларусь была ўсяго толькі адной з правінцыяў імперыі, а не краінай з самабытнай культурай. Старажытнае Бярэсце ўвогуле было знішчанае, каб пабудаваць на ягоных руінах крэпасць. Растлумачыць гэты вар'яцкі ўчынак можна толькі адным — жаданнем праваслаўнага кліру выкрасліць з гісторыі Берасцейскую унію. Каб не толькі не засталося будынка, дзе адбыўся гэты гістарычны акт, але і самога горада, які даў уніі імя. Новы Брэст пабудавалі на немалой адлегласці ад крэпасці.

У Мінску, у Верхнім горадзе ў 1857 годзе была разабраная ратуша. Афіцыйная версія: аварыйны стан будынка. На самой справе — каб ратуша не нагадвала падданым расійскага манарха, што калісьці яны былі жыхарамі вольнага горада. А яшчэ раней, у 1850 годзе, была перабудаваная ў «рускім» стылі царква Святога Духа — адзін з самых каштоўных помнікаў беларускага рэнесанса. У 1853 годзе ператварылі ў пажарную каланчу вежу з гадзіннікам былога калегіюма езуітаў. «Ідэйна выверанья» перабудовы закранулі і іншыя аб'екты Верхняга горада.

Тое ж працягвалася і пры бальшавіках. З той розніцаю, што ў XIX стагоддзі будынкі часта перараблялі для іншых патрэбаў, а бальшавікі папросту нішчылі. Асабліва шкада будынкаў, якія выстаялі ў вайне і былі зліквідаваныя ў пасляваенныя гады.

У 1950 годзе разабралі Дамініканскі кляштар. У 1951 годзе перабудоўваецца пад спартыўную залу касцёл езуітаў, разбураецца вежа і жылы корпус былога калегіюма. У 1968 годзе перабудоўваецца да непазнавальнасці дом губернатара (калісьці частка комплексу калегіюма езуітаў).

Пасля вайны Верхні горад і ў знявечаным выглядзе захоўваў прывабнасць, цэльнасць, веліч-насць аж да таго часу, пакуль яго не пасеклі праспектам Машэрава на дзве часткі. Пакуль не збудавалі на паўднёва-заходнім баку плошчы гмах праектнага інстытута. Гэтая агрэсіўная пачвара ціснe на плошчу сваёй масай.

У 70-я гады планавалася знішчыць усе старыя будынкі гістарычнага цэнтра Мінска, нават дзеючы кафедральны праваслаўны сабор (былы касцёл бернардзінак). Але дзякуючы намаганням грамадства ўлада выдала Верхняму гораду ў 1979 годзе ахоўны ліст — гэтая тэрыторыя атрымала статус запаведнай зоны. Неўзабаве некалькі праектных інстытутаў узяліся за вырашэнне праблемаў Верхняга горада, выконваючы пастанову Мінскага гарвыканкама «Аб рэканструкцыі гістарычнай часткі Мінска» (1980 г.). Яшчэ праз год гістарычны цэнтр нашай сталіцы ўключаны ў спіс помнікаў гісторыі і культуры ўсесаюзнага значэння. Распачалася рэстаўрацыя Траецкага прадмесця, наступным крокам павінна была стаць рэстаўрацыя плошчы Свабоды, вяртанне Верхняму гораду першапачатковай прыгажосці. Але даволі хутка высветлілася, што розныя праекціроўшчыкі ўкладваюць у слова «рэстаўрацыя» розны сэнс.

Рэстаўрацыя — справа дарагая. На пачатку 90-х гадоў рэалізуецца ідэя прыцягнення да гэтай справы прыватных інвестараў. У 1992 годзе ствараецца акцыянернае таварыства «Стары Менск», якое атрымала ў арэнду большую частку гістарычнага цэнтра горада. Кантрольны пакет акцыяў — у гарвыканкама. Даволі хутка высветлілася, што дзейнасць «Старога Менска» не мае нічога агульнага з рэстаўрацыяй. З лёгкай рукі акцыянернага таварыства ў запаведнай зоне з'яўляюцца новабудоўлі і «муляжы». Фактычна рэалізуецца ідэя, з якой змагалася беларускае грамадства ў 70-х гадах. Ліст пра парушэнні заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны за подпісамі вельмі паважаных людзей з'явіўся ў «Звяздзе». Справа дайшла да Пракуратуры Рэспублікі Беларусь (1995 г.). За акцыянернае таварыства ўступаецца старшыня Камітэта па ахове культурнай спадчыны Д.Бубноўскі. Ён піша ліст прэзідэнту А.Лукашэнку, у якім трактуе выступленні ў абарону Верхняга горада як спробу сілаў, што пацярпелі паразу на выбарах, узяць рэванш. Сябе ж сп.Бубноўскі прадстаўляе як ідэйнага барацьбіта супраць нацыяналізму ў галіне культуры.

Ліст сп.Бубноўскага прэзідэнту РБ і прадстаўленне Пракуратуры Рэспублікі Беларусь па пытанні парушэння заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны разглядаўся 13 верасня 1995 года на калегіі міністэрства культуры. Калегія вырашыла, што сп.Бубноўскі не адпавядае сваёй пасадзе. Але... Як паказалі наступныя падзеі, сваёй пасадзе «не адпавядалі» міністр А.Бутэвіч і ягоны намеснік У.Гілеп... Што ж датычыць сп.Бубноўскага, дык сёння ён паўнапраўны гаспадар не толькі Верхняга горада, але і Мірскага замка і, бадай, усёй гісторыка-культурнай спадчыны.

Уявіце сабе такую сітуацыю. Нейкая камерцыйная ўстанова атрымлівае ў арэнду будынак у гістарычным цэнтры горада. Будынак, зразумела, далёка не ў лепшым стане — арандатар абавязваецца яго адрэстаўраваць. Потым высвятляецца, што арандатар, атрымаўшы ад Камітэта па ахове культурнай спадчыны (а дакладней — ад сп.Бубноўскага) дазвол на знос дома (хаця гэта забаронена законам) на той падставе, што помнік архітэктуры «ў аварыйным стане», знішчае яго, а потым адбудоўвае нанова. Але новабуд не падобны да старога будынка ні планам, ні фасадам. Акрамя таго, ён на паверх вышэйшы за папярэднюю пабудову. Аднак новабуд па-ранейшаму афіцыйна лічыцца помнікам архітэктуры XIX стагоддзя. Арандатар жа мае статус рупліўца на культурнай ніве і на правах мецэната, які ўкладае грошы ў рэстаўрацыю, карыстаецца падатковымі льготамі, плаціць за арэнду абсалютны мізер.

Сёння, калі ты гуляеш па Верхнім горадзе, цябе можа спыніць ахова якога-небудзь офіса і запытацца, што ты тут робіш. Верхні горад, што ўяўляўся як агульнагарадскі культурны цэнтр, ператвараецца ў закрытую зону. Бо, як казаў мне знаёмы археолаг (ён аддаў Верхняму гораду ладны кавалак жыцця), «цiснуць жывыя грошы».

Ужо вырашана пабудаваць банк у раёне Дома масонаў, гасцініцу на тэрыторыі былога кляштара бернардзінцаў. Будзе бізнес-цэнтр на тэрыторыі былога кляштара базыльянак. Траецкае прадмесце называюць «дэкарацыяй для здымкаў фільмаў з французскага правінцыйнага жыцця». Як назавуць пасля заканчэння «рэстаўрацыі» Верхні горад?

Я прыгадваю Верхні горад майго юнацтва. Некалькі мастоў праз Свіслач на адрэзку паміж вуліцамі Купалы і Горкага (зараз Багдановіча). Масты пераходзілі ў вуліцы, вуліцы падымаліся да плошчы Свабоды. Драўляная забудова, даўно не рамантаваныя камяніцы, сям-там адвалілася тынкоўка. Рэшткі старога бруку. Ва ўсім адчуваўся заняпад, але Верхні горад дыхаў жыццём. Там заўжды было шмат мастакоў. Туды мінчукі вадзілі гасцей, каб паказаць гісторыю. Верхняга горада не было ў афіцыйным пераліку турысцкіх аб'ектаў, але турысты не міналі яго ўвагай. Было ў гэтых недагледжаных будынках тое, што завецца «аўтэнтычнасцю» — інакш кажучы, сапраўднасцю. Зараз Верхні горад дыхае холадам «еўрарамонту».

Страты непазбежныя, але іх будзе менш, калі грамадства будзе кантраляваць сітуацыю. У свой час мы не здолелі спыніць будаўніцтва другой чаргі метро праз Верхні горад і Замчышча. Але вынік усё ж быў, і якасць работаў на другой чарзе вышэй, чым на першай, і колы цягнікоў абулі ў гуму — усё ж меншая вібрацыя. Пры сённяшняй беднасці Верхні горад наўрад ці аддадуць установам культуры. Але прымусіць багатых гаспадароў «Старога Менска» і «арандатараў» помнікаў дойлідства паважаць закон — цалкам рэальна. Верхні горад Мінска належыць народу, а не купцы новых беларусаў ды іхных прыхільнікаў з ЗАТ «Стары Менск». ■



Мінск. Так пасля «рэканструкцыі» выглядае ўнутраная пляцоўка Верхняга горада. Зручны паркінг

Фота Ул.ШЛАПАКА

СВЕДЧАННЕ

# Дзяржава, якой мы не патрэбныя

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Не навіна, што нашая дзяржава можа пазбавіць простага грамадзяніна ўсялякіх перспектываў у жыцці, зрабіць з яго бамжа, вымусіць жыць у галечы, нават калі ён мае вышэйшую адукацыю. Але ўсё ж, калі бачыш жывую ахвяру такіх адносінаў, яшчэ раз задумваешся: хіба гэта народная дзяржава? Дзяржава створаная дзеля абароны сваіх грамадзянаў, а нашая, наадварот, стараецца праз чыноўнікаў схапіць чалавека за горла дзвюма рукамі, каб ён задыхнуўся.**



Руслан Джамалаў

Прыклад Руслана Джамалава, які ў 1989 годзе паверыў у Беларусь як у дэмакратычную, з роўнымі правамі для ўсіх нацыянальнасцяў краіну і пераехаў сюды з Ташкента, а зараз падманутьі, абражаны, беспрацоўны спаборнічае па беднасці з апошнім беларускім бамжом, адназначна ілюструе нашую законнасць і павагу да правоў чалавека, пра якую надта любяць выказвацца нашыя ўладары. У 1989 годзе ён пажадаў змяніць род дзейнасці і месца жыхарства і паступіў у Мінскі педагагічны інстытут на матэматычны факультэт, які ў 1994 годзе скончыў на выдатна, атрымаўшы пры гэтым дадатковую спецыяльнасць практычнага псіхолага ў органах адукацыі. Увесь гэты час Джамалаў пражываў у інтэрнаце педуніверсітэта, а ягоная маці заставалася ў Ташкенце,

Пасля заканчэння ВНУ Джамалаў па пісьмовым запыце Бярэзінскай школы-інтэрната быў размеркаваны туды на працу. Трэба дадаць, што ў запыце ўтрымліваліся гарантыі прадастаўлення яму пастаяннага месца работы і жылля.

Аднак калі малады настаўнік прыступіў да выканання сваіх абавязкаў і азнаёміўся з загадам аб залічэнні на працу, ён са здзіўленнем даведаўся, што прыняты на работу часова (грубае парушэнне КЗоТа ў адносінах да выпускніка, накіраванага на працу) на той тэрмін, пакуль знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку асноўны работнік.

На пытанне Джамалава, маўляў, чаму ж такі загад, дырэктар школы-інтэрната Кошмян адказаў, што супрацоўніца, якая лічыцца асноўнай, прынятая на працу толькі дзеля атрымання дзяржаўнай дапамогі, а на самой справе працаваць не будзе.

Падманулі Джамалава і з жыллём. Абяцанай службовай двухпакаёвай кватэры яму не далі, і нічога замест яе таксама не далі. У выніку Джамалаў вымушаны быў пражываць разам са сваёй маці, якая прыехала да сына з Ташкента, у кабінеце, дзе ён выкладаў (дакладней, у адгароджанай яго частцы).

Трэба адзначыць, што ў Бярэзінскай школе-інтэрнаце праблемаў хапала, і асноўнай была праблема ацяплення памяшканняў узімку. Тады Джамалаў выступіў ініцыятарам звароту вучняў і выкладчыкаў школы да прэзідэнта Беларусі Лукашэнкі, які пашчасціла перадаць асабіста ў рукі супрацоўніку прэзідэнцкай адміністрацыі. У выніку ў школе быў зроблены капітальны рамонт, а дзеці ўпершыню за апошнія гады змаглі ўзімку сядзець у класе без паліто і пальчаткаў. А яшчэ ў школе змянілі дырэктара. Новы «гаспадар» Д.Фешчанка абвясціў, што яму не патрэбныя ў школе людзі, якія «пішуць прэзідэнтам, парламентам і ўсякім там ААНам». І паведаміўшы, што вяртаецца з дэкрэтнага адпачынку асноўны работнік, звольніў . Так вось аддзякавалі настаўніку за клопат пра рамонт інтэрната.

Цяпер ужо беспрацоўны Джамалаў пачаў скардзіцца ва ўсе інстанцыі, у выніку чаго яму прапанавалі месца метадыста ў раённым доме творчасці г.Беразіно. Адначасова ён зноў пачуў абяцанне вырашыць яго жыллёвую праблему. Восем месяцаў Джамалаў разам з маці працягваў жыць у кабінетнай адгародцы, ды нарэшце дырэктар школы-інтэрната Фешчанка загадаў яму «збіраць рэчы і вымятацца».

Апынуўшыся на вуліцы, малады спецыяліст вымушаны быў звольніцца з дома творчасці, бо не меў дзе жыць у Беразіно, і пераехаў на дачу да студэнцкіх сяброў пад Мінск. Усе скаргі Джамалава заставаліся без увагі.

Такім чынам, нідзе не прапісаны Джамалаў стаў грамадзянінам без пэўнага месца жыхарства, ці папросту бамжом. Пазней Руслан амаль знайшоў работу, ды якую! Яму было прапанавана 6 месяцаў папрацаваць у праграме Camp America. Інакш кажучы, пабыць выхавацелем у амерыканскіх дзіцячых лагерах, што дазваляў яму ўзровень адукацыі і веданне англійскай мовы. Але калі Джамалаў прайшоў усе туры адбору і атрымаў афіцыйнае запрашэнне, шлях да месца працы яму перакрыла наша міліцыя, паведаміўшы, што без прапіскі ён не мае права куды-небудзь ехаць. Мала таго, што дзяржава не дае магчымасці жыць і працаваць на сваёй тэрыторыі, дык і выязджаць за мяжу не дазваляе. У спробах недзе прапісацца Джамалаву дапамаглі сябры, і ён займеў барысаўскую прапіску. Але было позна: Camp America быў упушчаны, а знайсці працу па прафесіі ў сённяшніх беларускіх умовах вельмі няпроста.

Чалавек у роспачы. Такое ці падобнае можа чакаць любога з нас да таго часу, пакуль мы не пабудуем дзяржаву (абяром уладу), якая будзе клапаціцца пра сваіх грамадзянаў. ■

***Падрыхтавана па матэрыялах праваабарончага цэнтра «Вясна-96»***

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 568 Нумар падпісаны ў друк 06/06/99 (15:00) Наклад — 16.880